# ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У ДЫТРОЙЦЕ

У нядзелю 13 ліпеня 1980 г. этнічныя групы мэтраполіі Дытройту й ваколіц урачыста адзначылі 21-ю гадавіну тыдня Паняволеных Народаў.

У вялікай, добра зарганізаванай дэманстрацыі прынялі ўдзел амаль усе этнічныя групы шматнацыянальнага Дытройту, машыруючы ў парадзе з нацыянальнымі сьцягамі, плякатамі й клічамі за незалежнасьць паняволеных расейскаю дыктатураю народаў. Амаль 3000 прадстаўнікоў нацыянальных групаў у прыгожых вопратках і ў вэтэранскіх уніформах сабраліся ў цэнтры на KENNEDY SQUARE, каб заманіфэставаць сваю салідарнасьць супроць акупацыі іх краін расейскім камунізмам, ня лічачы тысячаў Дытроітцаў і шматлікіх дэлегатаў 32-й Рэспубліканскай Канвэнцыі.

Дэманстрацыя Паняволеных Народаў на пярэдадні Нацыянальнай Рэспубліканскай Канвэнцыі не асталася бяз уплыву на ідэалёгію Канвэнцыі, прэзэнтуючы выразныя аспірацыі народаў, якія апынуліся ў сфэры таталітарнай дыктатуры, будучай абсалютным запярэчаньнем прынцыпаў свабоды й самавызначэньня, выражаных у Канстытуцыі ЗША і другіх дэмакратычных народаў.

Якраз гэты аспэкт быў аснаўною тэмаю й ідэалягічным матывам усіх прамоўцаў, якія выступілі з глыбокімі па зьместу прамовамі на гэтай дэманстрацыі.

Беларуская этнічная група Дытроіту й ваколіц з нацыянальнымі й амэрыканскімі сьцягамі, з плякатамі й адозвамі выдзялялася сярод другіх групаў сваёю дасканала зарганізаванаю дэманстрацыяй вельмі шматлікай рэпрэзэнтацыі. Можна было заўважыць многіх беларускіх вэтэранаў замежных войнаў і прадстаўнікоў беларускіх рэлігійных і грамадзкіх арганізацыяў з Канады й штату Огаё, якія прыбылі спэцыяльна на гэтую ўрачыстасьць.

На долю беларускай групы выпаў асаблівa высокі гонар у тым, што Яго Высока прэасьвяшчэнства Архіяпіскап Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Мікалай быў запрошаны арганізатарамі акадэміі прачытаць інвакацыю, прысьвечаную гэтаму дню.

Старшыня акадэміі судзьдзя Hausner прадставіў Уладыку Мікалая усім прысутным, пасьля чаго Уладыка адчытаў інвакацыю наступнага зьместу:

In the name of the Father, and the Son, and the Holy Spirit.

In this solemn hour, we pray to Thee, our God and Father, provide your divine guidance to the government leaders and the people of the United States to stand firm against the oppressions of Russian Communism and atheistic imperialism. The Captive Nations look to You and this great country of ours, as the citadel of human freedom.

Merciful God, grant these Captive Nations independence, religious freedom, and individual liberties.

Our God and Saviour, answer the prayers of our bretheren, oppressed by the brute force of Russian Communists. Their desire for justice, liberty, and independence, constitutes a powerful deterent to war and the best hope for a just and lasting peace.

We humbly bow our heads before Thee, our Almighty God and faithfully implore Thee: Accept this our prayer, bless the United States of America, the Captive Nations, and all suffering and oppressed people.

May Thy glorious name, our God and Redeemer, reign and shine in our hearts and be praised now and forever and ever. Amen.

Пасьля інвакацыі Старшыня Камітэту Паняволеных Народаў Сп. Сігурдс Рудзіціс афіцыяльна адчыніў акадэмію; у сваім уступным слове ён падкрэсьліў, што паняволеныя пароды ніколі не зракуцца сваіх слушных правоў ды нацыянальнай незалежнасьці ня гледзячы на тое, што прыгнечаныя расейскім камунізмам народы мусяць вясьці няроўную барацьбу з брутальнаю сілаю расейскага імпэрыялізму, якога апошняю ахвяраю стаўся Афганістан, прадмет апошняй агрэсіі чырвонай Масквы.

Наступна ад Рэспубліканскага Камітэту Этнічных Групаў выступіла A. Chenault, старшыня Камітэту, падчыркнуўшы факт, што Рэспубліканская Партыя стаіць на грунце бескампрамісовасьці самастойнасьці ўсіх народаў сьвету й што ў гэтым кірунку будзе вясьці палітыку пры помачы паняволеных народаў аж да іх аканчальнай перамогі.

З галоўнаю прамовао на акадэміі выступіў Старшыня Камітэту Паняволеных Народаў у ЗША Праф. Др. Леў Дабрансі. У сваім надзвычайна дынамічным звароце да ўраду ЗША і другіх вольных народаў сьвету ён падкрэсьліў, што Афганістан ёсьць толькі пачаткам агрэсіі расейскага камунізму ў яго паходзе да даміняцыі ўсяго сьвету калі вольныя народы астануцца пасыўнымі й ня прымуць ніякіх рашучых мерапрыемстваў затрымаць наступы расейскага камунізму. Тагды цэлы сьвет стане перад пагрозаю зьнішчэньня яго заходняй цывілізацыі й асноваў дэмакратызму. Для вольнага сьвету выбіла ўжо апошняя гадзіна прабудзіцца з летаргічнага сну да якога давёў дэтант і капітуляцыя заходніх дэмкрацыяў са сваіх пазыцыяў. Цяпер якраз у час Нацыянальнай Рэспубліканскай Канвэнцыі ёсьць нагода перагледзець усе вялікія памылкі ўраду ЗША у дачыненьні да камунізму й расейскага імпэрыялізму й пачаць крыжавы паход для абароны ідэалаў вольнага сьвету.

У адказ таго, што Рэспубліканская Партыя зварочвае вялікую ўвагу на праблему паняволеных народаў на акадэміі выступілі сын і дачка рэспубліканскага кандыдата на Прэзыдэнта губэрнатара Роналда Рыгана — Michael і Maureen Reagan. Michael Reagan сказаў, што ён ужо працаваў з рознымі нацыянальнымі групамі й разумее дакладна іх трагэдыю. Maureen Reagan падкрэсьліла ў сваёй энтузыястычна прынятай вялікаю аўдыторыяю прамове, што ЗША былі заўсёды абаронцам свабоды на ўсім сьвеце. ЗША бароняць правы народаў таму, што аб гэтым прыпамінаюць усе тыя, што апынуліся тут, каб прадаўжаць барацьбу за сваю вольнасьць. „Мы патрабуем вашай помачы й падтрымкі" гаварыля яна: „Мы вельмі цэнім вашую актыўнасьць і прыракаем вам нашую падтрымку".

Наступна былі зачытаны праклямацыі Прэзыдэнта ЗША Jimmy Carter-а

*(працяг на 6-й бачыны)*

# У. Бортнік, Заступнік Старшыні Рады БНР на Эўропу ў Амэрыцы

Сп. У. Бортнік прыляцеў у Амэрыку 26 верасьня 1980 г. На пачатку кастрычніка ён сустрэўся са Старшынём Рады Б.Н.Р. Др. В. Жук-Грышкевічам і наведаў некаторыя беларускія асяродкі ў Канадзе й З.Ш.А.



*У. Бортнік, Заступнік Старшыні Рады БНР на Эўропу*

Як сталы прадстаўнік Рады Б.Н.Р. у Эўрапэйскай Канфэрэнцыі Правоў Чалавека й Самавызваленьня (ЭКПЧС) якая мае сваю сядзібу ў Люцэрне, Швайцарыі, і як сябра гэтай арганізацыі, Сп. У. Бортнік 19-га кастрычніка ў Фундацыі Крэчэўскага на паседжаньні Прэзыдыюму Рады Б.Н.Р. паінфармаваў прысутных аб сваёй палітычнай дзейнасьці й дасягненьняў на тэрэне Эўропы. Як можна было бачыць зь некаторых дакумэнтаў, дзякуючы актыўнаму ўдзелу Сп. У. Бортніка ў ЭКПЧС, Беларусы былі ўведзены ў праграму падгатоўкі дакумэнтацыі аб пануючым палажэньні правоў чалавека ў краінах савецка-расейскай імпэрыі й іншых паняволеных краінах. Падрыхтоўка гэтае праграмы адбылася ў заходнім Бэрліне 24-26 чэрвеня 1980 г. якая пазьней была падана ўдзельнікам канфэрэнцыі ў Мадрыдзе.

Восьмага лістапада Сп. У. Бортнік адляцеў дадому.

# More on the Captive Nations Week in New York

A report on the observance of the Captive Nations Week on July 20, 1980, at the Statue of Liberty in New York City was printed in issue No. 25—26 of the *Byelorussian Times*. Below we continue the report and print two major speeches delivered at that observance: (1) A keynote speech by Dr. Valentina Kalynyk, President of the Americans To Free Captive Nations, Inc., the sponsor of the observance and, (2) a speech by Prof. B. A. Zikria of Columbia University representing several Afghanistan organizations in the U.S. and Canada.

### USSR — THE RUSSIAN COLONIAL EMPIRE MUST BE DISMANTLED

By Dr. Valentyna Kalynyk

Twenty-one years ago the U.S. Congress enacted Public Law 86—90 which requests the President to "issue each year on the third week of July a Captive Nations Proclamation"... "until such time as freedom and independence shall have been achieved for all the Captive Nations of the World."

Since then, every year, the peoples of the Captive Nations and their friends observing the Captive Nations Week, have spoken-out on behalf of the oppressed and and subjugated peoples within and outside tthe USSR. They have stated that the USSR — the cradle of international Communism — is a vast Russian colonial empire which has imprisoned over 120 nationalities which are ruled by the privileged Russian nation. There are fourteen non-Russian republics in the USSR, each with its homeland, history, traditions, culture, customs, language and religion. However, within these republics, those who attempt to preserve their own ethnicity, language and culture are branded as "bourgeois nationalists" and are severely persecuted by the Russian chauvinists. Mass deportations and uprootings of families of the Captive Nations from their homelands have been followed by the establishment of the so-called "micro-districts" of imported ethnic Russians within the cities of the Captive Nations in order to dilute the native population.

Numerous warnings that Russian imperialism is the main threat to the Free World have been ignored in the West. The West, drunk with co-existence, cultural exchanges and detente with the USSR, has failed to see that these "virtues" are used by the Kremlin to disarm the West and to build-up its own power. Some

*(continued on page 6)*




Dr. R. Horoshko reading a resolution at this year's Captive Nations Week observance at the Statue of Liberty in New York. On his right, Dr. Valentyna Kalynyk, President of Americans to Free Captive Nations.

## СПАЧЫЎ У БОГУ ЕРУСАЛІМСКІ ПАТРЫЯРХ БЭНЭДЫКТ І

Па волі Божай адышоў на вечны супачынак Яго Сьвятасьць Ерусалімскі Патрыярх *БЭНЭДЫКТ І,* пражыўшы 88 гадоў. Сьмерць наступіла пасьля атрыманага сэрдэчнага прыпадку ў нядзелю 7-га сьнежня сёлета.

Кажны год Яго Сьвятасьць перасылаў на сьвяты Нараджэньня й Уваскрасеньня Хрыстовага вітаньні Ўладыку Мітрапаліту Андрэю, духавенству й вернікам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Чужыне.

Сьвятой ☦ Памяці

### ДР. СТАНІСЛАЎ СТАНКЕВІЧ

*Памёр ведамы беларускі грамадзкі дзеяч і галоўны рэдактар месячнай газэты „Беларус", Доктар Станіслаў Станкевіч. Доктар Станкевіч нарадзіўся на Беларусі й атрымаў вышэйшую асьвету пры Віленскім Унівэрсытэце. У Злучаныя Штаты Амэрыкі ён прыехаў у 1962 годзе й ужо ў 1963 годзе стаўся рэдактарам „Беларуса". Пакойнаму было 73 гады.*

# More on Captive Nations

*(continued from page 5)*

Western governments have chosen to ignore the uncovered Soviet espionage plots rather than to risk offending the Kremlin with a crackdown.

Since 1959 the number of the Captive Nations has increased. New Captive Nations include Cuba, South Vietnam, Laos, Cambodia and Afghanistan — the latest victim of Russian barbarism.

The representatives of the Captive Nations and their American Friends are gathered today at the Statue of Liberty to protest against Russian imperialism, colonialism, genocide, russification, mass deportations, religious and cultural persecutions in their homelands; to remind the Free World that it is not merely its moral duty to oppose Moscow's aggression, but that it is also an indispensible policy for its survival; to appeal to the free countries to render support to the Captive Nations struggling to regain their freedom and national independence; to express their condemnation of the Russian(Soviet) aggression in Afghanistan and to demand immediate withdrawal of the Soviet troops from that country and restoration of its independence and sovereignty.

That Russian empire, the USSR, which enslaved hundreds of millions of people and threatens to destroy the Free World must be dissolved and independent countries re-established!

The Captive Nations organizations should work harder to bring about this goal and unite their forces with those of the American patriots who stand guard that this country shall continue to remain the leader of the Free World!

Demand freedom for: Afghanistan, Armenia, Azerbaijan, Ukraine, Byelorussia(Litva — editor), North Caucasus, Idel-Ural, Estonia, Lithuania(Zhamoyc — editor), Latvia, Turkestan, Cossackia, Georgia, Bulgaria, China, Croatia, Cuba, Czechia, E. Germany, Hungary, Mongolia, N. Korea, Poland, N. and S. Vietnam, Romania, Serbia, Slovakia, Slovenia, Tibet, Laos, Cambodia and others.

Support Freedom Fighters for Liberty, Justice and National Independence!

### ADDRESS BY PROF. B. A. ZIKRIA

As you all know Afghanistan is not a captive nation because we have been and continue to fight the Red Army. Twenty six months ago Afghanistan was wrecked by a bloody Marxist-Leninist coup engineered and executed by Soviet agents. Notwithstanding the killing of 1.5 million innocent people, the imprisonment of 100 000 leaders, students, intellectuals and defiant peasants, and over 150 000 refugees streaming to Pakistan and Iran, on December 25, 1979, the Red Army invaded Afghanistan.

Brezhnev's policies in Afghanistan over the past seven months have destroyed hundreds of villages, resulted in over 100 000 political prisoners and over one million refugees and reached a new low by killing and imprisoning children of ages 8 to 10 who demonstrated against Soviet occupation. Sacrificing their helpless frail bodies, these children are declaring to the unconcerned and apathetic world that freedom is not just an empty word, it is not just a symbol as this gigantic Statue of Liberty, but that freedom is taller than the tallest statue and taller than the tallest skyscraper, that liberty is mightier than the Soviet tanks, MIGs, helicopters and the Red Army. Liberty is the essence and the true spirit of man that rises from the lowliest among them to the Almighty God in the highest...

History is witness to the resolve, sacrifice, love of liberty and heroism of the people of Afghanistan to defend their faith, freedom and independence. We have outlived the greatest empires and colonial powers of the world and have proven, time and time again that Afghanistan can be occupied but it cannot be conquered. We will this time become the sharp bone in the throat of the savage Soviet Bear that will force the regurgitation of all captive nations as well as ourselves to freedom...

President Carter's wheat and technical equipment embargo and the boycott of the Moscow Olympics no doubt have made their damage to the Soviet arrogance. A number of Afghan National sports teams who were being sent to the Moscow games have recently defected to Pakistan. We very much wanted them to be here with you playing exhibition games...

Let Afghanistan be the last attempted captive nation and the first to break the chain, to initiate the chain reaction for the liberation of all captive nations. We all who believe in human rights and human dignity can rally around the War of Liberation of Afghanistan. I can assure you that if Afghanistan is liberated with the combined cries and efforts of all of us, such as the Captive Nations and those who believe in liberty and democracy, our shouts, our cries and our sacrifices will bring the Kremlin walls tumbling down and all nationalities will attain self-determination, human rights and human dignity.

We are not against the Russian people, we are not their enemies. Their enemies are their leaders in the Kremlin and the Russian generals who want to put the Russian nation through the same nightmare that the Hitler put the German nation and the world for the dream of a madman, the dream of a world government and a world empire.

Therefore, for the sake of freedom and democracy, for the sake of human dignity and self-determination help our nation morally and materially as they are dying by the thousands in the name of God and Liberty...

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У ДЫТРОЙЦЕ

*(працяг з 5-й бачынкі)*

й губэрнатара Штату Мічыган William Milliken-а аб тыдні паняволеных народаў, у якіх яны заклікалі амэрыканскі народ энэргічна падтрымаць рэзалюцыю тыдня паняволеных народаў.

Пасьля афіцыйнай акадэміі прысутныя дэлегацыі паводле альфабэту былі ўстаўлены да парады па галоўнай магістралі гораду Woodward да Jefferson Ave. каля Cobo Hall дзе шматлікія дэлегаты на Рэспубліканскую Канвэнцыю сустрэлі з вялікім уздымам паасобныя этнічныя дэлегацыі.

21-ы Тыдзень Паняволеных Народаў у Дытроіт зарганізаваны амаль адначасна з пачаткам Рэспубліканскай Канвэнцыяю, дакладна зар'ентаваў амэрыканскую публічную апінію адносна слушных аспірацыяў народаў, паняволеных расейскаю камуністычнаю дыктатураю. Напэўна ён будзе мець вялікі ўплыў на замежную палітыку Рэспубліканскай Партыі, якая паводле ўсіх крыніцаў публічнай ацэнкі мае вялікія мажлівасьці выграць у гэтым годзе ня толькі выбары Прэзыдэнта, але Кангрэсу й Сэнату ЗША.

*В. П.*
*7/24/1980*

# Сьвятой Пам. Прафэсар Леў Окіншэвіч

7-га лістапада сёлета адыйшоў на вечны супачынак праф. Леў Окіншэвіч, асіраціўшы жонку Веру й сына Юрага.

Пакойны прафэсар нарадзіўся 25 студзеня 1898 году ў Пецярбургу ад беларускіх бацькоў Аляксандра й Альжбеты Окіншэвічаў. У Пецярбургу ён скончыў унівэрсытэт і пераехаў на працу ў Кіеў на Ўкраіне. У часе другое Сусьветнае Вайны, ён апынуўся ў Нямеччыне дзе працаваў прафэсарам Мюнхенскага Унівэрсытэту. Там-жа прафэсар пазнаёміўся з беларускай інтэлігэнцыяй і адтуль наведаў некаторыя беларускія лягеры ДП чытаючы даклады на тэмы беларускае гісторыі. У Мюнхене праф. Леў Окіншэвіч спаткаўся з Япіскапам Васілём (Тамашчыкам). Гэтая лучнасьць працягвалася й пасьля пераезду абодвых у ЗША да самае сьмерці Архіяпіскапа Васіля ў красавіку 1970 году.



*Праф. Леў Окіншэвіч*

Маё асабістае знаёмства з прафэсарам Львом Окіншэвічам адбылося ў лягеры ДП у г. Остэргофэн у Баварыі, дзе ён прачытаў даклад аб беларускім Казацтве. У маім пакоі прафэсар затрымаўся й я меў прыемнасьць пазнаць і мець даўжэйшую гутарку аб нашым агульным палажэньні й пэрспэктывах на будучыню.

Пасьля сьмерці блаж. пам. Архіяпіскапа Васіля, прафэсар напісаў мне ліста з просьбай сталага кантакту з Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквою, праз перасланыя просьбы маленьня за здароўе й паніхіды кажнага году, як таксама скромныя ахвяры на БАПЦ. У гэтымжа лісьце праф. Леў Окіншэвіч прасіў мяне таксама, каб у выпадку ягонага адыходу на вечны супачынак, я адслужыў заўпакойныя маленьні з пахаваньнем.

І вось нспадзявана, 9-га лістапада жонка прафэсара спадарыня Вера Аксеньцьеўна тэлефанічна перадала мне сумную вестку аб спачыўшым у Богу прафэсару Окіншэвічу з просьбай выкананьня волі пакойнага. Пры гэтым паведаміла, што пахаваньне адбудзецца на магілках Украінскае Праваслаўнае Царквы ў Баўнд Брук, Ню Джэрзі, куды перавезена ягонае цела з Вашынгтону. Было дамоўлена з Украінскаю Царквою, што пахавальныя службы будуць праведзены пры маім удзеле з украінскім сьвятаром. Прафэсар Леў Окіншэвіч пражываючы даўжэйшы час у Кіяве, ды маючы сваю сужонку ўкраінку дачку Іярэя Аксенція, меў у сваім сэрцы дзьве бацькаўшчыны — Беларусь і Ўкраіну.

Паховіны былі вызначаны на гадз. 10:30 11-га лістапада ў Баўнд Бруку. Я прыехаў 10 лістапада ў Ню Брансвік і назаўтра пачуўся дрэнна й ня змог прыняць удзелу ў паховінах, а замяніў мяне а. Ян Бруцкі.

Ад беларусаў прынялі ўдзел у паховінах скарбнік Кансысторыі БАПЦ Мікалай Войтэнка, Др. Вітаўт Кіпель з жонкаю, Соня Швэд і Марыя Байчук. Над магілай беларуская група прапяяла „Сьпі пад курганам гэрояў", чым разчуліла ўсіх прысутных. На памінковым абедзе прамаўляў Др. Вітаўт Кіпель робячы кароткі ўспамін з жыцьця пакойнага прафэсара, ды паведаміў, што пакойны пераказаў сваю каштоўную бібліятэку Беларускаму Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Ню Ёрку.

У нашай памяці застаецца ўспамін глыбокае пашаны постаці выдатнага прафэсара-акадэміка Льва Окіншэвіча. Будзем маліць Бога, каб Ён Дабратлівы прыняў душу ягоную ў Сваё Валадарства Нябеснае.

— *Прат. Васіль Кендыш*

# Editorial

*(continued from page 4)*

Another consequence of the demise of Communist ideology is the removal of a smokescreen which was used by the Russians to hide their colonial and imperial acts blaming them on some mythical aliens called Communists or Soviets.

In view of the above, it no longer makes sense for the captive nations' organizations in the West to devote their main efforts to "fighting Communism." The captive nations remain captive not because of any ideological condition, but solely because Russia wants to hold on to its empire. Consequently, these captive nations organizations should re-direct their efforts to fight Russian colonialism and Russian imperialism.